Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 35. Вільня, 19 лістапада 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
| --- | --- | --- |
| Wilno (Вільня), Ціхая вуліца № 4, (альбо Міцкевіча № 15) кват. № 20. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Ад Прэзыдыуму Выканаўчага Камітэту Бел. Радыкальнай Народ. Партыі.

У зьвязку са Зьездам 27.XI—27 г., які ладзяць краёўцы - аўтанамістыя, Прэзыдыум Выканаўчага Камітэту Б. Р. Н. П. дзеля важных і пільных справаў пастанавіў склікаць, апрача Выканаўчага Камітэту,—на гэты дзень 27 лістапада так сама **і над'звычайную конфэрэнцыю Б. Р. Н. П.**

Падаючы гэта да агульнага ведама, просім усіх сяброў Выканаўчага Камітэту і актыўных сяброў партыі, якім будуць разасланы спэцыяльныя запросіны, абавязкова прыбыць у Вільню 27.XI а гадзіне 10-ай раніцы ў памешканьне Рэдакцыі „Б. Д“. Ціхая вул. № 4.

З прычынаў тэхнічнае немагчымасьці—**першы партыйны Зьезд** Бел. Радыкальнай Народнай Партыі, назначаны на 27-е лістапада, адкладаецца. Аб дні Зьезду будзе асобнае паведамленьне.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт гэтым заяўляе, што бярэ на сябе поўную адказнасьць перад уладамі за легалізацыю ўсіх паўстаўшых на вёсках хаўрусоў Б. Р. Н. П. і дзеля гэтага просіць паведамляць аб паўстаньні хаўрусу толькі Выканаўчы Камітэт.

Чарговае паседжаньне Выканаўчага Камітэту Бел. Радыкальнай Народнай Партыі адбудзецца 26 лістапада ў памешканьні Рэдакцыі „Б. Д.“, а другой гадзіне. Яўка ўсіх сяброў абавязкова.

За Прэзыдыум Б. Р. Н. П.

**Ф Умястоўскі.**

## Краёвы сялянскі зьезд.

*(Аб зьезьдзе 27 лістапада).*

27 лістапада г. г. адбудзецца ў Вільні Краёвы Народны Сялянскі Конгрэс, які склікаецца з ініцыятывы ўсіх сялянскіх груп нашага краю, а перад усім з ініцыятывы б. „Вызваленцаў“ і „Stronnictwa Chłopskiego“ (Сялянскай Партыі).

Як нам ведама, галоўнае пытаньне, якое будзе абгаварвацца на гэтым конгрэсе, — датычыць справы ліквідацыі ўсіх пасобных сялянскіх народных партый і груп і стварэньня магутнага агульна-краёвага Сялянскага Саюзу з Цэнтрам у Вільні.

Лічачы, што Конгрэс 27 лістапада можа вельмі паважна адбіцца на далейшых лёсах сялянскага руху ў нашым краі, Прэзыдыум Выканаўчага Камітэту Беларускай Радыкальнай Народнай Партыі пастанавіў **таго-ж 27 лістапада склікаць над'звычайную конфэрэнцыю з мэтаю абгаварыць справу ўтварэньня гэтага краёвага сялянскага фронту і заняць выразную пазыцыю на будучыну ў адносінах да братэрскіх сялянскіх арганізацыяў.**

Глыбока пераконаны, што і сябры Выканаўчага Камітэту і сябры Б. Р. Н. П. правідлова ацэняць тое значэньне, якое можа мець Конгрэс 27 лістапада для беларускіх народных масаў.

Досыць хоць-бы ад'значыць той факт, што партыя „Вызваленьне“ і „Stronnictwo

Chłopskie", якія ўвесь час працавалі, галоўным чынам, сярод беларускіх сялян, — спыняюць сваё істнаваньне, як групы ў нашым краі, радыкальна мяняюць сваю орыентацыю і палітыку, становяцца на мясцовы, краёвы грунт, — досыць хоць-бы гэтага аднаго факту, каб зразумець, што Конгрэс 27 лістапада можа адыграць ня толькі паважную, але і гістарычную ролю.

І ўзапраўды, зракаючыся папярэдніх памылак, якія рабіла „Вызваленьне" на літоўска-беларускіх землях, зрываючы з агульна-польскімі варшаўскімі цэнтрамі сялянскага руху, дэкляруючы публічна аб тым, што народны рух у нашым краі мае свае асаблівасьці і што бараніць сялянскія і народныя інтарэсы нашага краю можна, толькі стоячы на краёвым, а не на агульна-польскім грунце, б. дзеячы „Вызваленьня" і тыя народныя масы, якія змусілі іх на гэты крок, даюць пэўную падставу, падставу досыць моцную для консолідацыі ўсіх народных сілаў краю незалежна ад нацыянальнасьці.

Нам, як беларусам, як тым, якія ўвесь час, прапаведуюць нацыянальную згоду і супрацоўніцтва народаў і, перш за ўсё, згоду паміж сялянствам, застаецца толькі прывітаць той сьмелы крок, на які ступаюць мясцовыя польскія віленскія дзеячы-народнікі.

Але ці застановімся мы толькі на адным прывітаньні, на адным дэкляраваньні нашае сымпатыі да ініцыятараў конгрэсу 27 лістапада?!

Здаецца нам, што мы павінны быць лёгічнымі і калі стаімо за краёвую народную згоду, то мусім сягоньня-ж, пры першай магчымасьці, якую адчыняе нам Конгрэс 27 лістапада, перайсьці да дзеяньня, перайсьці да гэтага супрацоўніцтва ў радох агульна-краёвага народнага сялянскага саюзу.

Глыбока пераконаны ў тым, што ня толькі Выканаўчы Камітэт Б. Р. Н. П., але і ўся конфэрэнцыя Б. Р. Н. П. — усё сялянства, да нас прыхільнае, прымець наш пункт гледжаньня.

І захоўваючы сваю сілу, сваю праграму, свае ідэалы і мэты, Б. Р. Н. П. у радох гэтага агульна-краёвага саюзу, які паўстаець і мусіць паўстаць, павінна з яшчэ большаю энэргіяй працаваць на карысьць свайго народу.

Калі ідзе справа аб дабро краю, мы ня можам, як Пілат, умыць рукі.

Калі ідзе справа аб дабро сялянства,— агульным фронтам, усею народнаю лавінаю павінны ісьці мы да мэты.

Калі ідзе справа аб аўтаноміі, то толькі агульна-краёвы народны фронт можа нам даць яе.

---

## З жыцьця Беларускае Радыкальнае Народнае Партыі.

Выканаўчы Камітэт Б. Р. Н. Партыі на адбытым 26 кастрычніка г. г. паседжаньні пастанавіў.

1. Выдаваць „Беларускі Дзень", як орган Бел. Рад. Нар. Партыі.

2. Выдаваць штомесяц бясплатны дадатак платным падпісчыкам „Бел. Дня" ў постаці кніжак, брашур, партрэтаў і г. д.

3. Вык. Камітэт далей пастанавіў у меру

---

## Аб праграме Беларускае Радыкальнае Народнае Партыі.

„Беларуская Радыкальная Народная Партыя", — так назвалі прыхільнікі і чытачы часопісі „„Беларускі Дзень", якія зьехаліся ў Вільні 26 кастрычніка 1927 г., новую палітычную арганізацыю, патрэбу стварэньня якое ўсе яны прызналі.

Партыя! — не адзін з чытачоў „Бел. Дня" можа падумаць, нашто яшчэ адна партыя нам, беларусам, якія і без таго падзелены некалькімі палітычнымі арганізацыямі. У народзе жыве жаданьне мець адну партыю, як адвін працоўны Беларускі Народ, у якой знайшлі-б месца ўсе беларусы бяз розьніцы прафэсіі, рэлігіі, а нават соцыяльнага палажэньня.

Нашая партыя, аднак, мусіла паўстаць, бо ўсе істнуючыя і істнаваўшыя беларускія партыі не давалі месца ў сваіх праграмах нашым лёзунгам і імкненьням, ці змагаючыся з імі, ці абмінаючы іх, каб лягчэй здабываць сабе прыхільнікаў крыкам, абяцанкамі і лаянкамі.

Група людзей, што пачала 6 месяцаў таму назад выдаваць „Беларускі Дзень" на чале з вядомым адраджэнцам Ф. Умястоўскім, ініцыятарам і рэдактарам першае беларускае часопісі „Наша Доля", пільна сачыла за працай усіх беларускіх партыяў і прышла да вываду, што для дабра ўсяго Беларускага Народу трэба з'арганізаваць новую палітычную арганізацыю, якая-б унясла сьвятло ў пацёмкі беларускага жыцьця ў межах Польшчы, аздаровіла хворыя і ненармальныя адносіны палякоў да беларускага насельніцтва і, падняўшы яго матар'яльны стан, узмоцніла гэнае насельніцтва эканамічна, падняла культурна і ўсіліла палітычнае яго значэньне ў краі.

Істнуючыя беларускія групы забыліся аб адзіным сваім заданьні — дбаць аб дабры працоўнага беларускага народу, яны, заеўшыся грызьнёю адна з другою, дбаюць толькі аб карысьці для сваіх павадыроў, якія хочуць папасьць у Сойм ці ў Сэнат, адтрымліваць добрыя грошы і спакойна пражыць яшчэ некалькі гадоў. Згадзіць іх ініцыятарам і тварцом Беларускае Радыкальнае Народнае Партыі не ўдалося. Патрэбу-ж згоды павадыроў, патрэбу стварэньня варункаў спакойнага,

магчымасьці з'арганізаваць культурна-спортыўнае Т-ва „Сакол“.

Прадстаўнікамі Беларускае Радыкальнае Народнае Партыі на мясцох зьяўляюцца наступныя сябры Выканаўчага Камітэту, да якіх можна зьвяртацца ў справах арганізацыйных:

1. Мікалай Адамовіч — Горадна, Пушкінская вуліца 15.
2. Міхась Косьцевіч — в. Баброўня, Горадзенскага пав., Скідзельскае воласьці.
3. Фэлікс Цяўлоўскі — Баранавічы, Сасновая вул. 25.
4. Янка Дэшкоўскі — в. Пенховічы, Навагрудзкага пав., Моўчадзкае воласьці.
5. Янка Тарыкаў, в. Ізабелін, Дзісьненскага пав., Лужскае воласьці.
7. Міхась Канчук — м. Любча, Навагрудзкага пав.

Выканаўчы Камітэт выпусьціў асновы праграмы партыі, якія разасланы разам з № 34 „Бел. Дня“.

Арганізацыя хаўрусоў партыі на месцах ужо пачалася.

Да арганізацыі хаўрусоў партыі прыступайце гэтак:

Калі ў вёсцы знойдзецца прыхільнік і спагадчык партыі, хай ён прыдбае сабе якнайбольш аднадумцаў, якія б прынялі асновы нашае праграмы. 3-х паміж аднадумцаў могуць залажыць вясковы хаўрус Б. Р. Н. Партыі, сабраўшыся разам і сьпісаўшы пратакол такога зьместу:

## ПРАТАКОЛ.

„Мы (імёны і прозьвішчы), сяляне вёскі (назоў вёскі), разглядзеўшы асновы праграмы Беларускае Радыкальнае Народнае Партыі прыступаем да гэнае партыі і творым вясковы хаўрус Б. Р. Н. Партыі ў складзе (выпісаць імёны і прозьвішчы ўсіх, хто захоча належыць і прыйдзе на зборку). Да Рады хаўрусу выбіраем: за старшыню, (імя і прозьвішча), за пісара (імя і прозьвішча).

**Прачытаўшы газэту, перадай суседу!**

працавітага, але не галоднага жыцьця для беларускага сялянства, работнікаў і працоўнае інтэлігэнцыі гэныя ініцыятары аж надта адчувалі. Каб працаваць у гэным напрамку, яны мусілі стварыць новую партыю.

Праўда, што зашмат у беларусаў партыяў, гэта ўсе адчуваюць. Гэныя ўсе партыі аслабляюць моц народу, але нельга чакаць цудоўнага прымірэньня павадыроў гэных партыяў, тых, што былі паслямі ці хочуць яшчэ быць. Не для ўсіх, аказваецца, згода рэч пажаданая, а і ў мутнай вадзе можна лавіць рыбку і... пасольскія мандаты.

Наша новая партыя ёсьць партыяй беларускай. Закладчыкамі яе зьяўляюцца беларусы. Мэта яе — згуртаваць каля сваё праграмы і працы ўвесь працоўны, спакойны і працавіты Беларускі Народ. Назвалася яна Радыкальнай, — гэта значыць, што у спосабе асягненьня сваіх праграмных заданьняў і ў самым іх зьмесьце гэная партыя будзе няўклонна дабівацца зьдзейсьненьня гэных сваіх заданьняў, ня ўхіляючыся перад вялікімі перашкодамі, з якімі можа спаткацца, верачы, што толькі аканчальнае вырашэньне гэных яе заданьняў дасьць магчымасьць свабоднага і вольнага жыцьця Беларускаму Народу. Патрэбы *ўсяго* народу, а не якой-колечы адной групы ці клясы, партыя гэтая будзе старацца якнайлепш заспакоіць, бараніць інтарэсы *ўсяго* Беларускага Народу — і сялян і работнікаў і інтэлігэнцыі, дзеля таго яна і прыняла назоў Народнай партыі.

Сучаснае жыцьцё розьніцца ад адышоўшых, слава Богу, ў мінуўшчыну часоў царскага абсолютызму і шляхоцкага ўкладу тым, што толькі арганізованая маса можа дабіцца сваіх мэтаў, з пасьпехам бараніць свае інтарэсы і палепшыць сваю долю. Толькі цераз арганізацыю, толькі супольнымі сіламі, пры падтрыманьні ўсяго грамадзянства, прадстаўнікі яго здолеюць здабыць правы і палепшаньне варункаў жыцьця для гэнага грамадзянства. Чым больш з'арганізованы народ, чым сільнейшая арганізацыя яго, тым лепшы яго лёс.

Дзеля гэтага Беларуская Радыкальная Народная Партыя, каб з пасьпехам прычыніцца да паднятцьця матар'яльнага дабрабыту працоўных беларускіх масаў, каб змоцніць іх гаспадарчае значэньне, прыступае да з'арганізаваньня ў сваіх радох, у гаспадарчых і эканамічных арганізацыях усяго Беларускага Народу. Партыя гэтым кажа,

# …падарчы аддзел.

з глыбіні наверх … слаямі, можна вельмі добра апрацаваць грунт, пры меншай сіле і вялікай эканоміі часу, працы і рук.

Замест старых каштоўных спосабаў апрацаваньня грунту зьявіліся новыя спосабы, шмат таньнейшыя. Гэтыя спосабы зрабілі проста рэвалюцыю, пераварот у мэтодах апрацаваньня грунту. Асабліва апошняя форма спружыновых машын, гэтак званыя культыватары ці спружыновыя драпачы.

Так, як эру нашых дзядоў можна назваць зусім слушна эраю сахі, а часы нашых бацькоў эраю плуга, гэтак і сягоньняшні дзень можна назваць у гэтым сэнсе эраю спружыновага культыватара. У апрацаваньні грунту культыватар уступае месца толькі плугу, але як у апошнія часы паказала практыка зьяўляецца яго вялікім конкурэнтам. Культыватар, ці спружыновы драпач злучае ў сабе асаблівасьці плуга і бараны. Разьмеры яго прытарноўваньня ужо сягоньня вялікія і, дзякуючы новым удасканаленьням, увесь час пашыраюцца.

Ужываецца культыватар для падрываньня, праветрываньня, спульхненьня і мяшаньня грунту, зьдзіраньня пожняў, канюшынішча, чышчэньня грунту ад розных сьметнякоў. Так сама ўжываецца, замест бараны, пасьля глыбокае арбы, ці на грунце цяжкім або запушчаным. Ужываецца і для ўзрываньня папараў, спульхненьня вясною зімовых загонаў пад яравыя, ці караньплоды (бульбу, буракі), зрываньня кары на грунтох зьлітых, ці пры працах спэцыяльных, як напрыклад, чышчэньні сенажацяў ад моху, узьдзіраньні сенажацяў, ці пры закрываньні зярнят, пасеяных шырока, пры закрываньні штучных гнаёў і г. д.

Ужываючы культыватар на пожні адчыняем доступ вільгаці і паветру ў глыбіню зацьвярдзелай пад збожжам зямлі. Дзякуючы доступу вільгаці і паветра, ажывае ў зямлі дзейнасьць мікраарганізмаў, якія выклікаюць гэтак пажаданае выдабрэньне грунту, прычыняючыся да вытва-

---

што будзе перш за ўсё дбаць, каб беларускія працоўныя масы — сяляне, работнікі і рамесьнікі не вылівалі дарма поту і сваімі мазалістымі ды працавітымі рукамі не ўзбагачвалі другіх толькі, а працуючы на *уласных варстатах* працы, падымалі свой эканамічны быт, сталі незалежнымі гаспадарамі на ўласным загоне зямлі, якая-б дала столькі, колькі трэба, каб голад і галіта згінулі з беларускіх вёсак. Каб работнік беларус мог жыць так, як жывуць яго браты і таварышы па працы ў заходняй Эўропе, каб ён ня толькі гараваў, але каб за працу сваю меў магчымасьць здаволіць усе свае патрэбы.

У гэтым Беларуская Радыкальная Народная Партыя відзіць тую лепшую долю Свайго Народу, да зьдзейсьненьня якое прыступае.

Узмоцніўшыся гаспадарча, беларускае сялянства здолее разьвівацца культурна; вучыць сваіх дзяцей у сярэдніх школах, купляць гаспадарчыя машыны, штучныя гнаі і г. д.

Маючы падставу для культурнага разьвіцьця ў паправе свайго эканамічнага палажэньня, беларускія масы змогуць выявіць усё багацьце свае народнае душы, якая дагэтуль, як сьпячая царэўна ў казцы, мала была ведама культурным народам. Беларуская Радыкальная Народная Партыя будзе ўсімі сіламі памагаць беларускім масам выявіць гэнае багацьце беларускае душы, дзеля чаго адначасна з дбайнасьцю аб паправе гаспадарчага палажэньня Беларускага Народу, Б. Р. Н. Партыя будзе рабіць усё тое, што зможа памагчы народным масам да выяўленьня і разьвіцьця свайго культурнага жыцьця і нацыянальнага ўсьведамленьня Народу. Партыя лічыць, што поўнае нацыянальнае вызваленьне ня можа стацца цудам, а толькі ўсільная праца ў галіне гаспадарчай і культурнай прывядзе Беларускі Народ да гэтага Ідэалу, калі ўзгадуюцца свае нацыянальныя культурныя сілы і падымецца дабрабыт Народу.

рэньня з складнікаў грунту і паветра адпаведных для расьлін пажывін. Спружыновыя драпачы адыграюць вялікую ролю пры апрацаваньні грунту вясною. Заўсёды мусім старацца, каб *вясною поля не араць*, а яшчэ ўвосень поле мусіць быць добра апрацована, а вясною трэба зямлю толькі спульхніць культыватарам. Араць вясною можна толькі тады, калі зямля ўжо крыху падсохла, значыць трэба чакаць, пакуль з зямлі выйдзе трохі вільгаці, а пры арбе зямля, лежачы ў вялікіх грудах і стыкаючыся з паветрам, вельмі хутка пазбаўляецца вільгаці, а пасьля ўлетку расьліны добра не растуць з прычыны недахвату вільгаці. Пры кожным апрацаваньні грунту трэба заўсёды старацца, каб менш выходзіла вільгаці з зямлі ў паветра, ба вада — гэта галоўны капітал, з якім трэба вельмі гаспадарна абходзіцца. Калі-ж прыходзіцца вясною араць, то адразу за плугам трэба, каб ішла барана і разьбівала груды і такім чынам вымешвала плашчыню стыканьня паветра з грунтам.



Дзеля таго, што спружыновае апрацаваньне, як разьбіцьцё грудаў, спульхненьне ці мяшаньне, адбываецца на грунце рознае якасьці (лёгкай, ці цяжкай) і на розную глыбіню, то ў залежнасьці ад таго і ўжываюцца спружыновыя драпачы (культыватары), ці спружыновыя бароны. Культыватары прызначаюцца да глыбейшага апрацаваньня, а дзеля гэтага і мацней пабудаваны, як спружыноўкі. Першым спружыновым прыладьдзем, якое зьявілася ў сьвет, была спружыновая барана. Ня гледзячы на конкурэнцыю, так цяпер распаўсюджанага, культыватара, спружыновая барана ня толькі не перастае ўжывацца,



а ўвесь час усё больш і больш пашыраецца. Спружыновая барана дае тую асаблівую добрую якасьць, што іздальна раўнуе поле, дзякуючы таму, што пасоўваецца на палазох, а не на колах.

Складаецца яна з рамы, на якой прымацованы сьпіральна выгнутыя сталёвыя зубы, загартованыя ў алеі. Зубы маюць на канцы сталёвыя лямешыкі, каторыя пасьля могуць быць зьменены на новыя. Ручкаю можна рэгуляваць глыбіню, да якой маюць уваходзіць зубы ў зямлю. Дзякуючы таму, што зубы адпаведна выгнуты і ўвесь час падчас працы дрыгаюць, спружыноўкі ніколі не забіваюцца зямлёю. Пасьля працы, пераставіўшы ручку рэгулятара, можна вясьці спружыноўку з поля на раме, як на санках. Спружыноўкаю на 2 кані можна абрабіць у дзень 5 і больш маргоў зямлі.

Сягоньня ўжо ні адна культурная сельская гаспадарка не абходзіцца без спружыновае бараны ці культыватара. *П.*

---

## Як выбраць добрага каня.

Вызнаць дасканальна натуру кожнага каня і праканацца і ў яго сіле, здатнасьці і трываласьці да працы, а таксама ўдаласьці да праезду конна і ў калёсах, можна толькі пражыўшы з канём доўгі час. Але на вялікі жаль, раней чым, прадаць, мала хто ў нас дасьць свайго каня другому на спробу, а дзеля гэтага найчасьцей прыходзіцца купляць таго каня, якога прадаюць. А прадаюць найчасьцей якраз такога, які або хворы, або маець той ці іншы брак. З добрым здаровым канём гаспадар растаецца толькі ў надзвычайных выпадках.

Добра, калі трапіць купляць каня ўжо знанага, хоць не самім, то людзьмі блізкімі. У гэткім разе можна распытацца ў знаёмых і даверыцца на іхную раду. Але найчасьцей прыходзіцца купляць каня на рынку ад людзей, зусім незнаёмых, ад барышнікаў, цыганоў, а то і проста канакрадаў. Вось тут то якраз і патрэбна шмат асьцярогі, увагі ды апрача гэтага і практычнай веды разабрацца ўва ўсіх вадах і якасьцях каня, каб ня выкінуць дарма цяжка запрацованых грошай і не нажыць сабе бяды.

Барышнікі кожную падлу і ўбоіну выдаюць за самага лепшага каня. Каб конь меў лепшы выгляд, перад торгам яны стараюцца яго „падгладзіць“: зрабіць больш круглым і гладкім. Каб шэрсьць у старога ці хворага каня была гладкай і бліскучай, трымаюць каня пад гунькай і шэрсьць націраюць жырам. Віцьцём ды рознымі зьдзекамі над беднай жывёлай, робяць яе больш шустрай, рацівай, і гэткім чынам самага лянівага каня прадаюць за самага ўдалага. Каб збыць старога каня за маладога, „правяць“ яму зубы, выбіваючы, ці выпякаючы на зьедзеных зубох ямачкі. Умелым каваньнем і расчысткай вырoўніваюць хворыя капыты і г. д.

Каб памагчы маласьвядомаму ў гэтай справе гаспадару лепей распазнаць вады і залеты кожнага каня і ўсьцерагчы яго ад ашуканства з боку прадаўцоў, мы маем на мэце паказаць на тыя прыметы, карыстаючыся якімі пры выбары і купле каня, можна ўсьцерагчыся ад непажаданасьці і страты.

### Агульны агляд каня.

Ніколі ня трэба ні выбіраць і ні купляць каня ўвечары, а яшчэ горш поначы, хоць-бы

сабе пры самым відным агні, і асабліва каня незнаёмага ды на кірмашы. У пацёмку нават самаму лепшаму знаўцу цяжка разабрацца ўва ўсіх прыметах каня, а па-другім — у гэту пару барышнікі якраз і выводзяць на торг самыя крывыя ды сьляпыя, а часта і крадзеныя коні. Так што, купляючы каня ў пацёмку, гаспадар рызыкуець ня толькі застацца ізноў без каня, але яшчэ й бяз грошай.

Пачынаць выбар каня мы радзім з агульнага яго агляду. Для гэтага трэба каня вывесьці і паставіць на роўнае і віднае месца, і калі конь будзе ўжо пастаўлены, трэба зьвярнуць увагу, ці ня маець ён такіх недахваткаў, якія адразу сьведчылі б нам, што гэты конь ужо сапсованы, або хворы і што далей з ім ня трэба траціць часу.

З недахваткаў, якія адразу кідаюцца ў вочы, могуць быць гэткія: у спрацованага сапсутага каня размолваюцца суставы ног і заместа свае звычайнае формы робяцца апухшымі, тоўстымі; самыя ногі бываюць у каленках прыкорчаныя; на целе могуць быць раны, карак можа быць крэпка зьбіты, капыты пашчапаныя, пры гэтымжа конь можа быць кароставы, крывы і г. д. Трэба зьвярнуць увагу і на тое, як стаіць конь: весела, проста трымаючы галаву, стрыжучы вушамі, ці апусьціўшы ўніз галаву, нібы сонны. У апошнім выпадку бязумоўна конь будзе хворы.

Калі пасьля агульнага агляду каня, мы не знайшлі на ім а ніякой ганьбы і калі ён нам падабаецца, тады трэба аглядзець яго ўжо больш уважліва ад галавы да ног, зьвярнуўшы, перш за ўсё, ўвагу на склад цела і рост.

## Склад каня і велічыня.

Пажадана, каб склад цела ў каня быў сухі, як кажуць кашчавы (сухашчавы), але гэта ня значыць, каб конь быў худы, каб у яго тырчэлі косьці. Пад сухім, кашчавым, складам разумеюць такі, калі на целе нават самага сытага каня можна выразна бачыць граніцы паміж асобнымі мускуламі, і жылы пад скурай. Коні з сухім складам адрозьніваюцца заўсёды большай сілай і трываласьцю і болей лёгкія для праезду. Коні з сырым складам болей вялыя ў рабоце, хутка пацеюць, прыстаюць, хоць, праўда, надта скора сыцеюць, адпасваюцца.

Калі конь па складу свайму будзець падхадзяшчы, далей трэба зьмерыць яго рост, даўжыню тулава і шырыню грудзей. Гэтага ў нас, выбіраючы каня, ня робяць і надта шкода, бо ў добрага каня, як рост, так і велічыня паасобных часьцей цела павінны быць у пэўным стасунку адна да адной, так што, зрабіўшы памеры, можна ўжо судзіць аб вартасьці каня. Для таго, каб зьмерыць каня, ня трэба мець асобнай меркі. Можна з горам абыйсьціся той самай пугай, якую заўсёды можна знайсьці, дзеравяннай палкай, або аборачкай.

Правільна складзены конь маець рост у дзьве з палавінай галавы і толькі ў надта рэдкіх выпадках крыху больш. Велічыня галавы ў каня мерыцца ад патыліцы да краю верхняй лупы. Рост каня мерыцца ад вярха карку па простападнай лініі да зямлі. Даўжыня тулава мерыцца па простай лініі ад плечавога сустава, (дзе плячо злучаецца з лапаткай) па баку каня да верхняга канца кумпяка за хвастом (Гл. рыс. 1). Даўжыня добрага тулава, за рэдкімі выпадкамі, так сама бываець дзьве з палавінай галавы. Так што даўжыня і вышыня правільна складзенага каня павінна быць аднальковая; конь павінен быць чуць не квадратовы. Значны недахват, або пераход даўжыні тулава перад ростам ці наадварот, зусім непажаданы, дзеля таго, што пры доўгім тулаве і малым росьце хрыбёт у каня можа стаць хутка перагібістым, а высокі рост пры кароткім тулаве нядобры тым, што пярэднія ногі ў каня блізка стаяць да задніх і ў часе бегу заднія капыты засякаюць пярэднія, ад чаго кованы конь хутка можаць абраніцца. Перад (карак) у каня павінен быць вышэй за зад (крыж).



Рыс. 1. Кропкамі паказана, як мерыцца даўжыня тулава і велічыня грудзей у каня.

Велічыня грудзей мерыцца, апяразваючы каня ніжэй карку кругом каля лакцей пярэдніх ног (Гл. рыс. 1). У крэпкага каня велічыня грудзей павінна быць большая за рост. У слабасільных коняй часта велічыня грудзей бывае нават меншая. Чым велічыня грудзей большая за рост, тым конь будзе дужэйшы.

Калі, аглядзеўшы склад і зрабіўшы памеры каня, мы знайшлі яго прыгодным да працы і язды, далей павінны даведацца, колькі яму гадоў, бо самы найлепшы конь, калі толькі ён ужо стары, дык ня маець а ніякай вартасьці.

*Янка Пачопка.*

(Працяг будзе).

---

# Дагляд хлявоў і стайняў на зіму.

У папярэднім нумары „Беларускага Дня“, я пісаў ужо трохі аб хляве ў тым сэнсе, як яго трэба збудаваць, каб ён адпавядаў усім варункам гігіены і каб жывёліна, жывучая ў тых адпавядаючых варунках давала досіць добрага гною і каб гэты гной у адпаведных варунках добра перахоўваўся і быў якнайлепшым. Але гэта было меней-болей аблічана на будучыну, бо вядома-ж наш селянін пры ўсім яго пэсымізьме, ня так скора захоча зразумець гэта, а калі зноў-жа зразумееиць, то зноў-жа ня так скора правясьці ўсё гэта ў жыцьцё, так што сёньня прыходзіцца яшчэ думаць аб тым стане нашых хлявоў, якія яны ёсьць у сучаснасьці, прыходзіцца ду-

мацъ, паміма чагосьці лепшага, і рупіцца аб тым, каб хоць трошкі зьнясьці іх немагчымасьць і палепшыць іх неадпаведнасьць.

Няма ніякага сумліву ў тым, што ў *большасьці* нашых вясковых гаспадароў хлявы і стайні ёсьць такія, што ўзімку ў іх усё роўна, як на дварэ. Праз шчыліны веець вецер, праз іх-жа заносіць сьнег у вялікай нават колькасьці часам; бедная жывёліна і коні туляцца там і пакутуюць, стараючыся дрэньненькаю ежаю сагрэць сябе. Ведаючы ўсё гэта і добра сабе ўцяміўшы тое, што мы павінны забясьпечыць нашай жывёліне магчымасьць істнаваньня, і тое, што мы павінны рупіцца, каб гэтае істнаваньне было зносным і выглядала палюдзку; — *мы павінны споўніць наш абавязак сёньняшняга дня* — павінны забясьпечыць жывёліну перад халадамі надходзячай зімы і то павінны споўніць гэты абавязак зараз-жа, ані хвіліны не адкладаючы, бо зіма ўжо на носе. Кажучы ўсё гэта, з жалем прыходзіцца спомніць аб болей культутных у сэнсе гаспадарчым краёх, дзе людзі не патрабуюць і ня маюць гэтакіх абавязкаў *сёньняшняга дня*, бо яны ўжо даўно зьвярнулі ўвагу на стайні і хлявы і добра іх будуюць і аграваюць.

Мы не павінны цурацца досьледаў культурнейшых за нас гаспадароў іншых краёў, а наадварот, мусім выкарыстаць тыя досьледы і здабыткі; тым болей, што страты на гэта ўсё, а асабліва на паправу хлявоў і стайняў, ня надта вялікія, бо ўсё гэта можна зрабіць уласнымі рукамі. Перш за ўсё, мусім прылажыць усё стараньне к таму, каб свой благі, альбо падраны хлеў ці стайню — ўцяпліць. Дзеля гэтага трэба абавязкова *падраны* хлеў ці стайню з надворку абмазаць глінаю, можна нават аблажыць яго саломаю ці кастрыцаю, але трэба памятаць аб тым, што гэта будзе нам толькі на адну зіму, а нават можа і не на цэлую, бо пад канец зімы, як ня хопіць у гаспадара саломы на падсьціл, то ён будзе мусіць забраць яе адтуль, а з гэтым і зруйнуе сваю працу і з пачатку наступнае зімы зноў будзе змушаны рабіць тое самае. Вот-жа, каб гэта яго праца была назаўсёды карыснаю, трэба абавязкова зрабіць гэты агляд глінаю. Дзеля гэтага абіваем з надворку сьцены хлява ліштвамі, альбо лучынкамі, так як гэта робіцца пры тынкаваньні хатаў, і па абіцьці тынкуем глінаю, добра зьмяшанаю і вымешанаю з сечкай. Як першае тынкаваньне абсохне, замазваем зноў усе шчыліны і выраўняем усе запаласьці. Потым выраўнены і прасохшы тынк намазваем тонкім слоем вапны, а потым ёю-ж усё белім; гэткім чынам зроблены тынк і выглядаць будзе зусім прыгожа і дажджу ён ня будзе баяцца, бо ён вапну ня гэтак хутка змые, як адну гліну.

У хлявох, у якіх няма вакон (а яны здаецца ўсе ў нас такія), трэба абавязкова парабіць іх і то не маленькія на адну шыбу, а трохі большыя — на тры ці на чатыры шыбы, каб сьвятла хапала для жывёліны ў хляве, ці стайні — гэта маець для жывёліны дужа вялікае значэньне — яна тады чуецца і весялейшаю, і шустрэйшаю, і бадрэйшаю, а па-за гэтым і здаравейшаю. Вокны трэба рабіць так, каб сьвет ня падаў у вочы жывёліны, а па магчымасьці з-заду. Дзьверы трэба прыгнаць так, каб шчыльна прыставалі да вушакоў.

Абавязкова, гэтак сама і неабходна, зрабіць у хляве столь, бо іначай цяплыня ў хляве ня можа затрымацца. Столь трэба зрабіць з дошчак, паўтарачак ці дыляў, а з паддашша абмазаць таксама глінаю, зьмешанаю з сечкаю. Калі-б хто ня мог зрабіць такое столі, тады можна зрабіць яе другім спосабам; накласьці на бэлькі густа жэрдак, пакрыць іх саломаю, а па саломе пакрыць сухім лісьцьцём.

У сярэдзіне хлява, ці стайні выбяліць вапнаю, каб было сьветла і чыста.

Трэба гэтак сама ўпарадкаваць падлогу, сцымантаваць яе, альбо зрабіць таксама з гліны ці з каменьняў, альбо з дашчок, не забыўшыся зрабіць ямкі для дарагое жыжы і маленькі схіл з двух бакоў, каб утвораным гэтакім чынам карытцам лішняя жыжа магла сьцякаць у ямкі.

Не забывайма ся гэтак сама ўпарадкаваць жалабы і кармушкі.

Не забывайма ся так-жа зрабіць добрую вэнтыляцыю для ўваходу сьвежага паветра, дзеля гэтага можна зрабіць адумысны комін з дашчок і правясьці яго цераз страху, ці цераз сьцену на двор. Гэткі вэнтылятар запаўніць доступ сьвежага паветра і будзе таксама рэгуляваць тэмпэратуру ў хляве, якая павінна сярэдня выносіць *16° C.*

Вот-жа бачым, што каб упарадкаваць хлеў на зіму, то на гэта ня надта многа трэба палажыць працы, але карысьць з гэтага можна мець надта вялікую.

Перш за ўсё, жывёліна ня будзе мерзнуць, а будзе ў цяпле, сьвятле і чыстаце, будзе менш есьці і лепей выкарыстаець ежу; конь будзе клусьцейшы, а карова больш дасьць малака і лепей будзе выглядаць, — бо мы ведаем, што калі жывёліна стаіць на марозе, то яна есьць не ў сябе, а карысьці з гэтага зусім мала — жывёліна не паправіцца ад гэтага, а будзе выглядаць зусім дрэнна, бо ўся ежа ідзе тады на вытварэньне цяплыні ў целе жывёліны, адным словам, уся ежа бескарысна згараець, каб даць адпор холаду.

Дык ня трацьма-ж часу, а каб палепшыць нашыя хлявы ці жыцьцё жывёліны — хутчэй бярэмся да *работы!*

*Гаспадар.*

---

# Якія пазыкі можна адтрымаць з Дзяржаўнага Зямельнага Банку.

Дзяржаўны Зямельны Банк выдае сялянам такія пазыкі.

1. **Пазыку на куплю завадзкіх расплоднікаў:** быкоў, парсюкоў і авец. Пазыка даецца паасобным сялянам і сельска-гаспадарчым арганізацыям на куплю расплоднікаў для гадоўлі. Тэрмін звароту пазыкі 3-х летні, апрацэнтаваньне 8% (8 ад сту ў год). Каб адтрымаць на гэтыя патрэбы пазыку з Банку, падаецца ў Дзяржаўны Зямельны Банк просьба, ў якой трэба абазначыць, колькі грошай просяць, колькі штук расплоднікаў (бугаёў ці кнуроў) маюць купіць і якое расы. Гэтую просьбу, перад падачай яе ў Банк, трэба прадставіць у ваяводзкую управу сельска-гаспадарчае ці гадаўлянае арганізацыі (Towarzystwo Rolnicze або Wojewódzki Związek Kółek Rolniczych), якая сьцьвердзіць, што той, хто просіць пазыкі, заслугоўвае на яе і што паказаныя ў просьбе расплоднікі надаюцца для гадоўлі.

Пры просьбе аб пазыцы трэба далучыць абавязаньне:

1) што пры выбары расплоднікаў, купляючы

іх, застасуецца да вымогаў тае сельска-гаспадарчае ці гадаўлянае арганізацыі, якая дае пасьведчаньне на просьбе.

2) што набыўшы за пазычаныя грошы расплоднікаў, уласьнік будзе дапускаць іх да чужых саміцаў і будзе вясьці кнігу, ў якой павінен запісваць кожную злучку.

3) што да часу сплаты пазыкі расплоднікаў не прадасьць.

2. **Пазыкі на малачарні** даюцца толькі малачарным коопэратывам на: а) будову патрэбных будынкаў, б) перабудову і рэмонт істнуючых і в) на куплю машынаў і прыбораў, патрэбных у малачарні.

Гэтую пазыку коопэратыва адтрымае толькі тады, калі сябры яе даюць у малачарню малако ня менш, як ад 200 кароў у ручных малачарнях і ад 500 кароў, дзе ў малачарні ёсьць паравы матор.

Пры адтрыманьні пазыкаў на новыя будынкі, пяршынство маюць тыя малачарскія коопэратывы, якія ўжо працуюць і месьцяцца ў неадпаведных будынках.

Пазыкі на будову будынкаў для новапаўстаўшых малачарняў будуць выдавацца тады, калі малачарня мае памысныя варункі разьвіцьця і дзе дагэтуль малачарскіх коопэратываў ня было. Пазыкі на рэмонт і перабудову істнуючых у малачарні будынкаў будуць давацца ў тых выпадках, калі малачарні зьвялічваюць сваю пераробку, а таксама калі ў вокрузе яшчэ няма малачарняў.

Малачарня, якая стараецца аб адтрыманьні пазыкі, павінна прадставіць пасьведчаньне рэвізійнае арганізацыі, што сябры малачарні ўнясьлі свае паі, агульная сума якіх, калі ідзець стараньне аб пазыцы на будову, ня можа быць меншай, як $1/4$ часьць жаданай пазыкі.

На рэмонт і перастройку даецца пазыка ў ліку $1/2$ коштаў рэмонту і перастройкі.

Пазыкі апрацэнтованы 6 ад сту ў год і выдаюцца на тэрмін ад 5 да 10 гадоў.

Пазычаныя грошы могуць быць ужытыя толькі на паказаную ў просьбе мэту. Выдаюцца пазыкі на вэксалі, якія падпісваюць 3 асобы, маючыя маемасьць.

Сплата пазыкаў наступае па ўплыве 1 году ў поўгадавых ратах. Усе выясьненьні ў гэтых справах выдае Дзяржаўны Зямельны Банк, які на жаданьне высылае ўсе фармуляры і друкі.

---

## Як пратрымаць яблыкі ў працягу зімы.

Вельмі рэдка які з нашых сялян трымае яблыкі ў працягу зімы, дзеля таго, што ня мае да гэтага адпаведнага памешканьня, або таму, што трымаючы іх дзе ў варыўні разам з бульбай у склепе, змурованым пад памешканьнем, ці зусім у памешканьні жылым, паносіць вялікую шкоду— найчасьцей большая частка яблыкаў пагніець. Бяручы гэта пад увагу, селянін найчасьцей прадае іх увосень па нізкай цане, памагаючы гэтым самым эксплёататарам-перакупшчыкам набіваць свой кішэнь. Дзеля таго, што цана яблыкаў пад вясну бывае ў чатыры, пяць, а то і больш разоў вышэйшай за васеньнюю, дык ёсьць рахунак трымаць іх у працягу зімы. Найлепш трымаць яблыкі ў спэцыяльна збудованым для гэтага памешканьні, у якім ня было-б замнога вільгаці (вельмі сухое паветра таксама шкодзіць яблыкам). Яблыкі ў такім памешканьні складаюцца ў адзін рад большыя і ў два меншыя на драўляных паліцах, якія павінны разьбірацца. Тэмпэратура ў такім памешканьні ня можа быць ніжэйшай за $+1^1/_2$ С. і вышэйшай за $+5$ С. Раптоўныя пераходы ад цяплейшага да халаднейшага паветра і наадварот выклікаюць паценьне яблыкаў і па пэўным часе гніцьцё.

Але варункі матар'яльныя вельмі мала якому з нашых сялян могуць дазволіць на гэткі будынак. Калі хто з іх і трымае яблыкі зімой, то трымае іх, як я ўжо сказаў раней, у варыўні або склепе разам з бульбай, буракамі, капустай і г. д. Паветра там амаль што заўсёды бывае тухлаватае і сырое, ад якога яблыкі пачынаюць моршчыцца і многа трацяць на вазе; а тухліна ці нагул які-н-будзь пах вельмі лёгка передаецца яблыкам і нават пасьля месячнага, а то і большага працягу часу ляжаньня ў чыстым паветры з іх усё роўна ня выходзе.

Практыкуючы розныя спосабы ў гэтай галіне, я прышоў до пераканаьня, што найлепш хаваць яблыкі на зіму ў стагі, прыблізна так, як бульбу. Розьніца палягае на тым, што бульбу мы ссыпаем у адну кучу, а яблыкі трэба складаць радамі, насыпаючы на зямлю кастры ад лёну, таўшчыні вяршкоў паўтара, на якую трэба класьці рад яблыкаў, які ізноў засыпаецца слоем кастры ў адзін вяршок і гэт. далей. Вышыня гэтага стогу ня можа быць большай за $1^1/_2$ арш. Злажыўшы гэтак яблыкі, трэба іх прыкрыць цёртай саломай, слой якое ня можа быць меншым як $1/2$ арш. і пасьля трэба гэту салому абкідаць лёгенька зямлёй, пакідаючы ўвярху невялікую прадуху (якую трэба засыпаць зямлёй, як пачнуцца маразы).

Гэткім спосабам можна яблыкі злажыць у стог нават і цяпер, ня гледзячы на тое, што зямля ўжо пакрылася сьнегам. Трэба толькі зямлю ад сьнегу расчысьціць і хаваць іх у соўнечны дзень, як будзе адліга. Спосаб такі вельмі добры, дзеля таго, што малы толькі процант яблыкаў за зіму сапсуецца, — яблыкі амаль што ўсе бываюць чыстыя, здаровыя і сьвежыя. Мушу яшчэ зазначыць, што хаваць у стог можна толькі гатункі зімовыя. *Г.*

---

## ПЧАЛЯРСТВА.

### Вульлі.

(Гл. № 34 „Бел. Дня").

У папярэднім сваім артыкуле аб вульлёх, я займаўся агульным апісаньнем рамовых вульлёў і тым, якое вялікае значэньне яны маюць у пчалярстве. У гэтым месцы я займуся устройствам вульля ў сярэдзіне і пастараюся вытлумачыць нашым пчаляром, якое вялікае значэньне маець гэнае ўстройства вульля ў сярэдзіне. Бо бязумоўна пры рабеньні вульлёў трэба мець над-та руплівае вока, каб ані не памыліцца ў разьмерах рамак, у разьмерах самага вульля і ў адступах усяго і ўсюды, як рамак паміж сабою, так і адступ іх паміж сьценкамі вульля, адступ іх паміж вярхом і нізам.

Разглядаючы вулей, мы бачым, што пласты вузы на рабочую пчалу маюць таўшчыні $^{7}/_{8}$ альбо адну цалю, дзеля гэтага мы робім рамкі таўшчынёю $^{7}/_{8}$ цалі. Праходы паміж запячатаванымі пластамі ці рамкамі вузы ёсьць $^{3}/_{8}$ цалі, а паміж запячатаванымі пластамі з мёдам усяго меней-болей праходы гэтыя ёсьць у $^{1}/_{4}$ часьць цалі, маюць, значыцца, гэткі разьмер, каб праз яго магла праходзіць пчала. Практыка паказала, што калі праход паміж рамкамі ёсьць у адну чацьвёртую часьць цалі, то пчолы нічым іх не займуць. Калі гэтыя праходы зрабіць меншыя, то пчолы запоўняць іх вузою, калі большыя, то яны даробяць чарачкі і запоўняць іх мёдам.

Унізе рамак трэба пакінуць праход у $^{3}/_{8}$ цалі, бо калі пакінем праход большы, то пчолы яго ўсё роўна заробяць вузою, тоё-ж самае будзе і па бакох, калі мы не датрануемся да шырыні праходу, бо пчолы ня любяць вольнага месца ў вульлі і заўсёды стараюцца яго зарабіць вузою. Вонкавыя разьмеры ўсіх рамак і ўнутраныя разьмеры ўсіх вульлёў павінны быць аднолькавыя (разумеецца рамак і вульлёў аднае сыстэмы, прыкладам вульлёў і рамак Лявіцкага, бо ёсьць яшчэ вульлі іншых сыстэмаў, прыкладам Дадана-Блатта, Нэйбора і др.; кожная сыстэма мае свой разьмер рамак і свой унутраны разьмер вульля). Вот-жа дакладнасьць у рабеньні вульлёў і рамак аднае якое-небудзь сыстэмы мае надта вялікую вагу. Бо калі кожная рамка ня будзе прыстасована да якога-небудзь адпавядаючага той ці другой сыстэме, то выгады ад рухомых рамак ніякае ня будзе, бо пчолы іх пазалепваюць з розных бакоў і падаробліваюць вузою, так што яна будзе мець выгляд пласта вузы з калоды, вось дзеля чаго мы павінны рупіцца, каб у вульлі ўсё дакладна ўсюды было прыстасавана, бо ў праціўным выпадку будзе страта часу і для пчаляра і для пчолак.



Матка.



Пчала-работніца.

Што датычыцца таго, якія рамкі належыць рабіць, ці высокія і вузкія, ці шырокія і нізкія, то большасьць пчаляроў, на падставе сваіх уласных дасьведчаньняў, прыйшла да перакананьня, што ў гэтым выпадку для пчол лепей рабіць рамкі шырокія, найлепей за ўсіх уголаў і аблічыў гэта, сусьветнае славы пчаляр Дадан-Блатт, бяручы рамкі менш-больш квадратовага разьмеру, ушыркі трошкі большыя чым удаўжкі і адпаведна да гэтага прыстасоўваючы свае ўласнае сыстэмы вулей, якія сёньня цешыцца вялікім прызнаньнем пчаляроў, ня толькі дзеля таго, што мае надта ўдачна зробленую рамку і прыстасаваную болей, як іншыя да прывычак пчол, а асабліва *маткі*, а і дзеля таго, што ягоны вулей мае і многа іншых добрых прыкметаў, яб якіх я скажу дакладна, як буду апісваць асобна вулей гэтае сыстэмы.

Цяпер скажу аб тым, дзеля чаго рамкі павінны быць роблены больш шырокія, як высокія. Вот-жа практыка паказала, што калі рамкі высокія, то іх ня можна тады ўтрымаць у простападным палажэньні бяз помачы ўраўніцеляў і іншых прыладаў у нізе вульля, што на практыцы выходзе зусім дрэнна, бо, робячы такія падпоркі, можна падушыць многа пчолак і нават у тым ліку і матку, можна, значыцца, страціць вулей, па-другое, пры гэткіх апарацыях заўсёды дразьняцца пчолы, што ня выходзіць ім на карысьць.

Нізкія вульлі з менш-больш шырокімі рамкамі гэтых апэрацыяў не патрабуюць. Затым, калі рамкі занадта высокія, то пчолкі ня вельмі ахвотна працуюць у верхніх падстаўках, дзеля таго, што калі нават усе рамкі і запоўнены мёдам, то пчолы ўсё яшчэ заўсёды бегаюць і шукаюць месца, дзе можна было б складаць мёд, і дзеля таго, што калі нават і моцная сям'я ў вульлі, то ўсё ж такі пчолкі зьмесьцяцца ў такім вялікім вульлі з высокімі рамкамі, а ў падстаўкі лезьці дзеля гэтага ня хочуць. У дадатку шырокія нізкія рамкі лепей надаюцца да аддзяленьня з іх мёду пры помачы мёдагонкі.

Высокія і вузкія рамкі ня мала замінаюць і вываду дзеткі, дзеля таго, што дзетка выводзіцца колам эліпсы па бакох рамак, а ня зьверху ўніз (матка, бачыце, мае звычай пры кладцы яечак рабіць кола выгляду эліпсы). Дзеля таго, каб рамкі ў вульлі моцна трымаліся, робяцца ўверсе па бакох вульля пазы, якія абіваюцца цынкаваю бляхаю. Рамкі ўкладаюцца ў гэтыя пазы і гэткім спосабам моцна трымаюцца.

*Пчаляр.*

## Гаспадарчыя парады.

### Як пазнаць захварэўшую скаціну і як лячыць яе.

### САП.

*Сап* незьлячымая і вельмі заразьлівая для коняй і чалавека хвароба (другія жывёлы сапам не захворваюць). У сапных коняй зьяўляецца кашаль, клейкае, часта з прымешкай крыві, выцяканьне з носа, балячкі ў ноздры, а часам і на скуры. Хворыя сапам коні забіваюцца.

### ШАЛЕНСТВА.

*Шаленствам* захворваюць усе жывёлы і чалавек, заражаючыся цераз укусы шалёнымі жывёламі. Захварэўшая жывёла, як незьлячымая, забіваецца. Шалёная жывёла становіцца буйнай, кідаецца на жывёл і людзей, кусаецца бяз усякай прычыны, грызе падстаўленую палку, голас у яе зьмяняецца, яна ня можа глытаць харчы і наагул вельмі зьмяняе свой звычайны нораў. Усе пакусапыя шалёнымі жывёламі сабакі і кошкі забіваюцца, буйная жывёла трымаецца пад вэтэрынарным наглядам, а людзі адпраўляюцца для лячэбных прывівак на пастэраўскую станцыю. Дзе зьявілася шаленства жывёлы, належыць усіх сабак трымаць на прывязі, альбо ў наморднiках, а брадзячых зьнішчаць.

### Адказ К. Чарапку.

Нажаль, Вы ня пішаце скольki парсюк прыбыў на вазе за той час, як яго пачалі карміць. Судзячы па вашым пісьме, можна думаць, што ён хворы. Спрабуйце дадаваць у корм солі па адной ложцы ў дзень. Таксама можна спрабаваць даваць серку, размолатую ў парашок.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

## У справе Фр. Аляхновіча.

„Бел. Дзень“ і іншыя газэты ўжо падавалі весткі аб лёсе вядомага беларускага пісьменьніка-драматурга Фр. Аляхновіча.

Прыпамінаем, што Фр. Аляхновіч выехаў у Менск, дзе яго бальшавікі засудзілі на 10 гадоў турмы і заслалі ў найцяжэйшую турму на Салавецкія выстравы. Весткам гэтым пярэчылі бальшавікі. Але, нарэшце, і яны прызналіся да таго, што Аляхновіча засудзілі. Як падае праскі корэспондэнт „Biełaruskaje Krynicy“ (№ 45, 4 лістапада 1927 г.), прыяжджаў у Прагу вядомы беларускі камуністычны дзеяч у Менску пісьменьнік Цішка Гартны (Жылуновіч). Мэтай прыезду Жылуновіча і яго папярэднікаў было здабыць сымпатыі беларускае эміграцыі для бальшавікоў.

Падчас дакладу, які меў Жылуновіч аб камуністычным „раі“ ў Савецкай Беларусі, яго запыталі аб тым, што зрабілі з Фр. Аляхновічам; ён сьпярша сказаў: „Ня ведаю“.

Прысутныя, абураныя такім адказам заявілі, што Аляхновіч, настолькі заслужаны ў беларускім адраджэньні, што аб ім трэба ведаць. Тады Жылуновіч толькі сказаў, што „ну, мы яго ўсунулі“. „Усунулі“ — гэта значыць засудзілі на 10 гадоў найцяжэйшай турмы.

Відаць „вялікія“ ўплывы маюць беларускія камуністычныя дзеячы ў „сваёй“ дзяржаве, калі ня здолелі абараніць вядомага і гэтак заслужанага беларускага культурнага дзеяча. Адзін Кнорын больш значыць, чымся ўсе разам узятыя беларусы. Вось табе і свабодная дзяржава!

Не свабодная, а проста провінцыя маскоўская, з „віцэ-каралём“ Кнорыным на чале.

# Корэспондэнцыі.

*(Жухавіцкая вол., Стаўпецкі пав.).*

Аж за галаву чалавек возьмецца, пачуўшы хоць крыху аб жыцьці нашай вясковай беларускай моладзі. Дый узапраўды чаму ёсьць цешыцца? Амаль што ўся наша моладзь несьвядомая і мала таго, яна зусім ня хоча нічым цікавіцца. „Газэты і кніжкі хлеба не даюць“, — вось лёзунг цяперашняе вясковае моладзі. Многа ёсьць прычын, якія перашкаджаюць моладзі прыймаць удзел у беларускім адраджэнскім руху. Адна з прычын — гэта чужая школа. Ці яна дае штонебудзь нашым дзецям? Не, яна ня толькі ім нічога не дае, але наадварот, яна калечыць іх. Хлапец з чацьвёртага аддзелу польскай пачатковай школы ня можа напісаць пісьма да чалавека, незнаёмага з польскай мовай, напр., да рэкрута.

Вось чаму сяляне так неахвотна пасылаюць дзяцей у польскую школу, дзе вельмі дорага каштуюць кніжкі, і часта селянін хоча, каб яго сын, хоць і здольны хлапец, сядзеў другі год у адным аддзеле, затым, што няма за што купіць патрэбныя кніжкі-падручнікі. Я быў сьведкам, калі селянін М. з аднае вёскі прыйшоў да вучыцеля і з сьлязьмі ў вачох прасіў не пераводзіць яго дачкі ў наступную клясу, бо няма грошаў на патрэбныя кніжкі, за якія ў чацьвёртым аддзеле польскае школы трэба заплаціць каля 20 злотых. Калі сяляне ня хочуць пасылаць, а хоць і пасылаюць, то вельмі неахвотна ў польскую пачатковую школу, то тым больш яны ня хочуць пасылаць і ў сярэднюю, дзе, апрача кніжак, трэба заплаціць за кватэру, за прахарчаваньне, а нават часам і за навуку. Ня вельмі сяляне пасылаюць і ў беларускія школы, разумеецца сярэднія, бо там не таньней абыходзіцца гэтае вучэньне, к таму яшчэ нашы сяляне большаю часткаю нясьведамыя. Паны і паўпанкі, хоць у нас іх мала, амаль ня ўсе высылаюць сваіх дзяцей, па большай часьці, у польскія сярэднія школы. Аднак, як я ужо пісаў, сяляне ня хочуць туды пасылаць сваіх дзяцей, бо кажуць: „Якая цяпер карысьць з навукі. Нават і вучоныя людзі цяпер сьвіньні пасуць, хоць і з паноў, а з мужыкоў і пагатоў нічога ня будзе. Хоць нашыя сяляне крыху мыляюцца, але і ўзапраўды, якая карысьць з гэтага, калі дзіця часта адтрымаўшы сярэднюю адукацыю, адракаецца ад усяго роднага, а нават і ад бацькоў. Вось, каб гэта даказаць, я прывяду наступны прыклад. Сын аднаго селяніна скончыў, дзякуючы надта ўжо вялікім высілкам бацькі, вучыцельскую сэмінарыю. На вакацыях бацька прывёз яго ў мястэчка на вучыцельскую пасаду. Саскочыўшы з воза, сын пабег у канцэлярыю кіраўніка пачатковае школы, а бацьку казаў пачакаць у кухні. Кіраўнік, прывітаўшы маладога вучыцеля, запрасіў да сябе ў пакой і пачаў яго частаваць. Толькі цераз некалькі гадзін сын успомніў, што ў кухні знаходзіцца яго бацька, і кажа кіраўніку: „Пане кіраўнік, там у кухні сядзіць мой... хурман, выняcьце яму, калі ласка, хоць чарку гарэлкі“. Кіраўнік увайшоўшы ў кухню сказаў: „Віпі, хурман, хоць чарку за здароўе твайго пана. Слаўны ён будзе вучыцель“.

Бацька, даведаўшыся аб тым, што яго выракся ўласны сын, як ашалелы ўварваўся ў пакой і датуль пугай хлёстаў свайго сына паўтараючы: „я твой бацька, я твой бацька“, пакуль кіраўнік з сваім парабкам ня выпіхнулі яго на падворак.

З пракляцьцем на вуснах пакінуў бацька свайго сына.

Гэты выпадак хіба што даволі характарызуе некаторых з нашай моладзі з польскіх школ.

У нашай мясцовасьці хлапец, які мае чатырнаццаць гадоў, ідзе хутчэй за ўсё да якоганебудзь майстра і вучыцца рамясла. Гэта ў нас вельмі распаўсюджаны такі звычай, і хлапец, які ня хоча ісьці да якога-небудзь майстра, лічыцца за вялікага гультая.

З гэтага хіба відаць, што нашая моладзь зразумела, што траціць маладыя гады дарма — грэх. Аднак, наша моладзь траціць шмат часу ўзімку. Вечарамі, замест таго, каб пачытаць якую-колечы газэту ці кніжку, хлапцы, сабраўшыся дзе-небудзь, граюць у карты. Зімовую пару якраз належала-б выкарыстаць вясковаму вучыцелю і наладзіць вячорныя курсы для эналфабэтаў, г. значыць для няпісьменных. Нажаль, у нашай воласьці, здаецца, няма ніводнага вучыцеля, які б быў узапраўды „культуртрэгэрам“, бо вучыцялі большай часткай паходзяць з каранной Польшчы і дзеля таго ня могуць зразумець духоўных патрэбаў нашай моладзі. Ніякіх палітычных арганізацыяў у нас няма, а з культурных,

дык праўда істнуюць гурткі „Т-ва Беларускай Школы“, якія ладзяць спэктаклі, лекцыі, вечарыны і інш.

Але, нажаль, моладзь ня вельмі ахвотна, альбо можна сказаць і зусім ня горнецца да гэтых гурткоў. *Той самы.*

### Бязьдзейнасьць нам шкодзе.

*(в. Загорцы, Маладэчанскага пав.).*

Ужо цяпер хіба няма ніводнай вёскі, аб якой ня пісалася-б у газэце. Аднак, аб вёсцы Загорцах яшчэ мала хто чуў, ды мала хто ведае аб яе істнаваньні. А чаму гэта? Здаецца, вёска, як вёска, ня горш іншых, двароў мае з семдзесят і недалёка ад мястэчка Радашкавіч, дзе ёсьць, як усім ведама, беларуская гімназія і іншыя беларускія установы. У вышэйшых клясах Радашкаўскае гімназіі ніводнага вучня нямашака з Загорцаў. Моладзь у вёсцы большасьцю несьвядомая. Адзін толькі гаспадар адтрымовуе газэту, а рэшта, можна сказаць, газэт у вочы ня бачыць.

Прыдзе нядзеля: швэндаюцца тыя хлопцы па вуліцы, ня ведаючы да чаго прычапіцца. Яшчэ тое добра, што народ тут спакойны. Загорцы заўсёды цешыліся опініяй спакойных дабрачынных людзей. А то, дык бойкі тут адбываліся-б часта.

А чаму-ж не заняцца культурнай працай у галіне гаспадаркі, літэратуры і г. д. Ці-ж не маглі-б загорцы залажыць у сябе які гурток, злажыцца на першы пачатак, хоць па некалькі грашоў ды выпісаць цікавых беларускіх кніжачак ды родную газэту „Беларускі Дзень“ з вялікім аддзелам сельскае гаспадаркі.

Тады пазналі-б, якое вы вядзеце жыцьцё, якое ня прыносіць нікому карысьці. Бо якая карысьць сядзець з заложанымі рукамі ў хатах, быццам той „Лявон“—сымболь беларускага народу, нічога ня бачыць, ня чуць і ні аб чым ня ведаць, што дзеецца на сьвеце?

Прыйдзе калі сьвятам вясковы хлапец у мястэчка, ходзіць па вуліцах, пазірае, а спытайцеся ў яго, што ён бачыць, аб чым ён ведае?

Другі толькі і глядзіць, каб толькі спаткацз кім ды ў карчму заглянуць.

Вёска ня зусім бедная, шмат гаспадароў мае па палавіне валокі, а некаторыя па цэлай, рэшта, па 5, 6, 7 дзесяцін зямлі. Але ўся бяда ў тым, што гаспадарыць ня надта ўмеюць. Гаспадарка вядзецца пастарадаўнаму, пастарасьвецку. Зямля—пясок ня родзіць, але вось каб ужыць штучных гнаёў, ніхто нават і не падумае, далей, каб задумацца, як і дзе што сеяць, дык зусім іншая тады была-б справа.

Узяць дзеля прыкладу суседнюю вёску Сычавічы. Таксама сяляне малазямельныя, многія толькі па 2 дзесяціны маюць, але тут куды іншая гаспадарка. Народ тут больш энэргічны, і лепш стараецца гаспадарыць і таму лепш жывець.

Дык, браты! Досыць гінуць у цемры. Арганізуйцеся выпішце газэту, адну, другую, залажэце ў сябе культурна-гаспадарчы гурток, паглядзеце, што будзеце больш здаволены, жывучы інакш, лепш. *Голь...*

### *В. Селішча, Наваградзкага павету.*

У чэрвені 1926 г. у Гарадэчанскай воласьці аказаўся забітым Станіслаў Ліпніцкі. Сьледзтва проці забойцы давяло на лаву абвінавачаных жыхара вёскі Селішча, Гарадэчанскай вол. Янку Булата. Суд у Наваградку асудзіў яго на 10 гадоў цяжкае турмы. Асуджаны падаў апэляцыю ў Віленскі Апэляцыйны Суд, які меў разглядаць справу 8 лістапада г. г. Аднак, справа на прапазыцыю пракурора была, адложана, дзеля таго, што вядзецца сьледзтва нанова. *Саўліч.*

# Апошнія навіны.

**С. С. С. Р.** Раскол у расейскай камуністычнай партыі паглыбляецца. Падчас урачыстага сьвяткаваньня 10-годзьдзя бальшавіцкай рэвалюцыі, павадыры опозыцыі Троцкі, Зіноўеў, Ракоўскі і інш. выступалі публічна проціў Сталіна і трымаючай уладу групы. Дайшло да вострых дэмонстрацыяў. Шмат асобаў было ранена.

Цэнтральны Камітэт Камуністычнае Партыі выключыў з партыі Троцкага і Зіноўева.

Пастанова аб выключэньні з партыі Троцкага і Зіноўева жыва адбілася ў грамадзкай опініі. Пастанова гэтая была неспадзеўкай. Опозыцыянэры думалі, што выключэньне наступіць на конгрэсе саветаў, які адбудзецца ў сьнежні. Да гэтага часу опозыцыя мела надзею ўзмацніць опозыцыйную акцыю ўнутры кампартыі.

Сталін і яго група хоча аслабіць опозыцыю і гэтым можна вытлумачыць пастанову аб выключэньні Троцкага і Зіноўева.

Выключэньне Троцкага і Зіноўева з кампартыі і тое, што ў опозыцыі астаюцца самыя старыя „гэнэралы“ бальшавізму, як Ракоўскі, Радэк, Каменеў і іншыя, сьведчыць аб працэсе развалу камуністычнае партыі. Развал такі наступае. Можна спадзявацца вялікіх зьменаў на Ўсходзе.

**Нямеччына.** У некаторых краёх Нямеччыны, як у Мэкленбургу і Гэссэне, адбываліся выбары ў парлямэнт. Усюды перамогу адтрымалі соцыяль-дэмакраты.

Таксама ў Гданску падчас выбараў у парлямэнт соцыялістыя мелі вялікую перамогу. У зьвязку з гэтым магчыма, што ў адносінах між Польшчай і Гданскам наступіць зьмена. Дагэтуль уладу ў Гданску мелі нямецкія нацыяналістыя, якія варожа адносіліся да Польшчы.

**Румынія.** У Румыніі, па сьмерці караля Фэрдынанда, наступнікам трону астаўся 6-цёх гадовы Міхал. Сын Фэрдынанда Кароль, дзякуючы сямейным непаразуменьням, зрокся трону і абавязалі яго не вяртацца на бацькаўшчыну.

Аднак, у Румыніі ёсьць шмат староньнікаў Кароля. Між іншым гэтымі днямі адбыўся суд над высокім урадоўцам Мануілеску, які абвінавачваўся ў тым, што ў зносінах з Каролем выступаў проціў пануючага дзяржаўнага ладу. Ваенна-палявы суд Мануілеску апраўдаў. Такім чынам, справа дынастычнага насьледатва ў Румыніі можа выклікаць хатнюю вайну.

**Аўстрыя.** У Вену прыяжджалі прэзыдэнт нямецкіх міністраў Маркс і мін. заграгічных справаў Штрэзэман, дзе адбылі важныя нарады з аўстрыйскімі палітыкамі. Была, пэўна, абгаворвана справа злучэньня Аўстрыі з Нямеччынай. Проціў злучэньня выступае Францыя і іншыя дзяржавы.

**Польшча.** Газэты падаюць, што дэкрэты аб распушчэньні Сойму і вызначэньні тэрміну новых выбараў падпісаны Прэзыдэнтам Рэспублікі. Дэкрэты будуць абвешчаны 28 лістапада 1927 г.

Польскія палітычныя партыі пачалі ўжо выбарную кампанію.

Урад адмовіў у крэдытах Цэнтральнаму Земляробскаму Т—ву, за тое, што яно займаецца палітыкай, падтрымліваючы эндэкаў.

## Гігіенічна-ратаунічы аддзел.

### Алькаголь.

Алькаголь гэта моцная атрута. Чыстага алькаголю ніхто ня п'ець, а разбаўляюць найчасьцей вадою, адтрымліваючы сьпірт і гарэлку. Заўважылі, што, чым менш народ культурны, тым больш ён ужывае напіткаў з алькаголем. Дзікі чалавек, за бутэльку гарэлкі, аддаець усё сваё дабро, а нават і жонку. Мы, беларусы, выпіваем алькаголю ў гарэлцы, таксама нямала. Дзеецца так, але мала хто разумеець, што, п'ючы гарэлку, ён паволі, але пэўна атручваець сябе. Алькаголь атручваець наймацней мазгі і клетачкі чалавечага насеньня. Печані і вантробы таксама ўвесь час псуюцца ад алькаголю. Найстрашней піць гарэлку дзеля таго, што алькаголь атручваець ня толькі таго, хто яго п'ець, але праз яго яшчэ больш яго патомства і ня толькі дачок і сыноў, але часта яшчэ мацней унукаў і ўнучак. Найчасьцей родзяцца дзеці слабыя, хворыя і з выгляду зусім здаровыя, але зусім дурныя ці прыдуркаватыя. Па стара-жыдоўску ёсьць сказ: „Твой бацька зачаў цябе, калі быў п'яным". У жыдоў гэта лічылася найвялікшай абразай і значыла, што ты апошні і недапёка і дурань. Ужо тады ведалі, як адбіваецца п'янства на патомства.

І гэта праўда. Калі бацька п'ець алькаголь, ён атручваець сваё семя на доўгі час, так што, калі ён гэтым затручаным семем зачнець дзіця, яно можа ўрадзіцца дурнем, у лепшым выпадку недаразьвітым. З гэтага робіцца зусім зразумелым, якім шкодным ёсьць нам звычай, калі стараюцца, каб на вясельлі было якнайбольш гарэлкі і калі кожную справу начынаюць і канчаюць з гарэлкай. Чалавек прасьпіцца і яму робіцца адразу толькі малая шкода, якой ён нават не заўважыць, але праз нейкі час гэтай шкоды набіраецца вельмі шмат. Алькаголь памагаець разьвівацца ў чалавеку многім хваробам, а асабліва вэнэрычным (пранцы, трыпэр). У п'янага чалавека розум ашаломлены на пэўны час і не працуець нармальна, а чалавек нярас пасьля хварэець, робіць сабе шкоду, а нават гінець.

Прывычка да алькаголю з часам робіцца так моцнай, што чалавек без яго ўжо абходзіцца ня можа.

Гэтая прывычка пераходзіць у хваробу-алькаголізм. Дзеці алькаголікаў (людзей хворых на алькаголізм) самі ня родзяцца алькаголікамі, але маюць нахіл да гэтае хваробы. Калі гарэлка кепска ачышчана, ці маець іншыя дамешкі, як гэта ёсьць з самагонамі, дэнатурамі, палітурамі і г. д., то яе піцьцё можа чалавеку папсаваць таксама і вочы, і калі зусім не асьлепіць, то чалавек будзе значна горш бачыць. Цела чалавека губляець многа цяплыні (астуджаецца), хоць чалавеку здаецца, што яму цёпла робіцца, калі ён вып'ець чарку - другую гарэлкі. Прадуктыўнасьць працы чалавека, які ў часе гэнае працы, ці перад ёю ужываець алькаголь, значна паніжаецца, хоць яму здаецца, што яго змучаньне прапала, не кажу ўжо аб тым што на гарэлку аддаюцца грошы, годныя лепшае справы. Есьць яшчэ шмат шкоды ад гарэлкі, аб якой пісаць ня хопіць месца.

Найгорш тое, што гэтая шкода хаваецца ад нашага вока і здаецца нам часта, што алькаголь ня толькі ня бываець шкодны, але нават—памоцны(?). Толькі ў выпадку калі чалавек ня ўжываець, альбо ўжываець надта мала алькаголю, ён можа быць памоцны, калі чалавек, аслабеўшы пасьля хваробы, які ўжо папраўляецца, п'ець трохі добрага натуральнага віна. У вінах алькаголю ўсяго каля 4%.

Алькаголізм, як хвароба, цяжка паддаецца лячэньню. Падам толькі, як трэба абходзіцца з п'яным, калі чалавек напіўся ўжо да таго, што ня можа ісьці і ляжыць. Асабліва, калі на паветры холадна, трэба яго ўвясьці ў цёплае памешканьне.

Калі на рынку, палажыць на воз і глядзець, каб цёпла быў апрануты і не застудзіўся, пакуль даедзець да хаты. Не пазваляць ляжаць на сырой зямлі, бо лёгка можа прыдбаць сабе якую хваробу, а найслабейшы нават мароз можа замарозіць. У хаце трэба памацаць цела п'янага, а асабліва ногі, і калі халодныя распрануць яго і расьціраць усё яго цела моцна шчоткай, пакуль не сагрэецца (толькі ня спусьціць скуры націраючы). Памятайце заўсёды аб цяпле для п'янага бо гэтак на холадзе людзі гэтыя няпрыкметна губляюць здароўе.

Затым, найлепш, калі чалавек прасьпіцца і працьверазеець сам у цёплай пасьцелі, цёпла накрыты. Калі чалавеку надта дрэнна, ці трэба яго на момант прывясьці у чуцьцё, даюць, часам, выпіць шклянку вады, ў якую капаюць 3—5 капель (ня больш) нашатырнага сьпірту. На другі дзень з пахмельля чалавек дрэнна чуецца, але ня трэба ізноў піць чаркі, як ня трэба ўжываць соды, калі пасьля п'янства ў жываце як-бы пячэць, бо лёгка такім спосабам прыдбаць катар жывата.

*Я. П.*

### Як затрымаць кроў, якая ідзець з носа.

Калі з носа выцякаець праз ноздры кроў большымі ці меншымі шыбкімі каплямі, дык добра прамыйце нос чыстаю халоднаю вадою, а затым трэба нос задраць дагары так, каб нос аказаўся якнайвышэй, трымаць так некалькі часу. Праз 3—5 мінут, а часам раней кроў бываець спынена.

*Я. П.*

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Сьвятло Міх.** Нажаль, нічога Вам парадзіць ня можам Табаку забаранілі садзіць, а калі кто садзіць, дык яго караюць. Такі ўжо благі закон.

**Кокач Яз.** Жарты да друку не падходзяць, газэту вышлем. Пішэце аб сваім кутку.

**Паўлоўскі.** Атрымаеце машыны на 3 проц. таньней.

**Казюковічу.** Дзеля таго, што пісьмо Вашае аб зьезьдзе радных было зьмешчана ў іншых часопісах, у нас яно друкавацца ня будзе.